# Лісты у „Заранку“

## Ліст Маладога Дзядка да Беларускіх дзетак.

**Мілыя дзеткі!**

Ужо мінае месяц, калі я апошні раз з Вамі гаманіў. З вялікаю радасьцяй пішу да вас гэтыя словы, бо, праўду кажучы, засумаваўся за месяц па Вас! Вельмі мяне цешыць радаснае зьявішча, што вы, дзеткі, узяліся за працу. Як жа-ж прыгожа ўклаў Покаўка свой вельмі добры вершык! А якія прыгожыя думкі ўлажыў ён у гэты верш. Дайжа, Божа табе, Покаўка, здароўя, каб ты мог здзейсьніць свае лятуценьні і каб за табой пашлі плоймамі моцныя целам і душою беларускія дзеткі, Праўду кажаш, што „Маладыя і поўныя веры“ ўсё могуць зрабіць Малайчына і Стэфусь Войцік, — працуе старанна! Дык працуйце, дзетачкі любыя! Працуйце, каб у хуткім часе быць вольнымі. У гэтай кніжцы я ізноў падаю Вам штоколечы да чытаньня. Ці спадабаецца Вам?... Мо хто напіша аб гэтым мне ў скрынку „Заранкі“.

Тымчасам бывайце здаровенькія! Пастараюся ўбачыцца з Вамі ў наступнай кніжцы.

Кахаючы Вас

**Маладзы Дзядок.**

3 ліпеня 1927 году.

# НАША ПОШТА

**Марысі Ласька.** Вельмі нас цешыць, што Ты так ахвотна бярэшся пісаць ў роднай мове, паміма таго, што учышся ў польскай школе. Казачку Тваю зьмяшчаем. Прысылай больш.

**„Марусі з Антокалю“.** Шараду зьмяшчаем; круцігалоўка з крыжкаў пойдзе ў чародную кніжку.— Геамэтрычных задачаў не прысылай, бо яны ў „Заранку“ не прыдатныя. — Квадратная круцігалоўка не пойдзе, бо ёсьць у ёй неправідловыя словы. Напрыклад слово: „Календа“—па беларуску гаворыцца „каляда“. — Трэба старацца, каб словы былі правідловыя і чыста беларускія.

**Андрэю Начую.** Мы вельмі ўцешыліся, што „Заранка“ спраўляе Табе так многа радасьці. Бядуеш, што яна так рэдка выходзіць і што без дадаткаў. — Гэта залежыць ад самых дзяцей. Калі кожны чытач пастараецца прыдбаць больш падпішчыкаў, „Заранка“ пабагацее, а тады зможа часьцей выхадзіць і даваць дадаткі.— Твае загадкі добрыя; па крысе ўсе зьмесьцім. Прысылай больш.

**Аляксею Патаповічу.** Круцігалоўку Тваю зьмяшчаем. Апавяданьне не пойдзе, бо яно мала праўдападобнае. Вельмі добра, што маеш ахвоту навучыцца лепей пісаць. Ці ходзіш у школу і якую?—Пішы да „Заранкі“ і прысылай загадкі.

Рэдактар Выдавец **Л. Войцікава**. Друк. Я. Левіна, Вільня

# ЗАРАНКА

**Ілюстраваная часопісь для дзяцей.**

Выходзіць кніжкамі
адзін раз у месяц.

Падпісная цана з перасылкай
на 3 месяцы 1 злот,
на год . . . 4 злот,
Асобны нумар 35 гр.

Падпіска прымаецца з кожнага месяца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Віленская вул. 12, кв. 6.

Цана гэтай кніжкі 70 гр.




Малады Дзядок.

# „Ніва“.

Быццам мора шуміць,
Быццам гай шапаціць
Ніва каласістая;
Быццам срэбра бліщчыць,
Быццам шкло зігаціць
Ніва залацістая.

Жаці прыйдзе ўраз час,
Хлябок будзе у нас:
Каласы жыта ўжо наліваюцца.
Сэрца чую я стук...
Ў небе ўецца жаўрук
І пяе ён сабе, заліваецца.

Ў жыце шмат васількоў,
А над ім мятлікоў
Цэлы рой зігаціць, увіваецца...
Як зірнеш, паглядзіш, —
Усюды мілая ціш!...
Бяда-гора уміг забываецца.

Жаці прыйдзе ўраз час,
Хлябок будзе у нас:
Каласы жыта ўжо наліваюцца.
Сэрца чую я стук...
Ў небе ўецца жаўрук
І пяе ён сабе, заліваецца.

26 чэрвеня 1927 г.

# Боцікі з глухой крапівы і шапка з васількоў.*)

Ой, як набедаваўся маленькі Янaчка праз усю гэтую зіму, набедаваўся! Татачкі ўжо няма—а мамачка ледзь толькі зарабляла, каб хапіла на пражыцьцё, ды на апал... А пра боцікі, ці пра кожушок і думаць ня прыходзілася! А тут так да школы далёка, ды яшчэ праз рэчку трэба перабірацца.

— Ты не багатых бацькоў сын, хопіць нам абаім маіх ботаў—толькі абувайся ды ідзі ў школу, бо спазьнішся — кажа мама Янaчку.

Абувае Янка гэтыя боты: напхае ў сярэдзіну саломы, па самыя калені закруціць нажаняты мамінымі анучамі, дый добра сапрае, пакуль абуе боты. А тады цягнецца—паўзе па гразкай дарозе. Потым пераходзіць у брод рэчку, ды яшчэ добры кусок да сяла і да школы.

Ой, набедаваўся бедненькі, а мамачка ня раз наплакалася, калі восеньню прышлося сьцагваць Янaчку забалочаныя боты ды расьціраць закасьцянелыя нажаняты хлапчука.

А ў школе?

Колькі насьмяяліся, — вот хоць-бы Кандратаў Міхась, або Лосікава Параня — з Янaчкавых ботаў.

— Глянь, якія паморшчаныя халявы!

— А якое вялікае вуха вісіць!

— Вось ужо Янка на санях заехаў!

А бедны Янaчка дзьмухаў у сінія ручаняты, а часам і заплакаў.—Чаму яны так з яго сьмяяліся? Вось-жа ён не вінаваты, што яго мамачка бедная — вельмі бедная... Сама ня мела чаго апрануць...

Але ня думайце, што Янaчка быў заўсёды сумны. Уваходзіў вучыцель у школу — і сум Янaчкі зьнікаў. Ен вельмі любіў свайго вучыцеля. Яшчэ няма году, як да іх

---

*) Даем вось гэты пераклад з украінскай дзіцячай часопісі „Сьвіт Дитины“ і радзім Вам, мілыя дзеткі, зьвярнуць увагу на лекарскія зёлкі. Яшчэ ня позна; месяцы са 3 яшчэ розныя зёлкі збіраць можна. Хто заахвоціцца да гэтай працы, няхай піша ў „Заранку“, яна дасьць Вам усе патрэбныя рады і паясьненьні.

Рэдакцыя.

прыехаў, а ўсе яго палюбілі. А ўжо ніхто больш, як Янaчка. Вучыцель ім што колечы новага расказывае—такія прыгожыя—вельмі прыгожыя рэчы, а часам, дык яшчэ малюнкі паказываў, ды расказываў уселякія дзівы. А калі ды яшчэ залажыў у іх праўдзівую „Супалку-Каапэратыву“, у якой самі вучні прадавалі, дык тады ўсе вельмі палюбілі свайго маладога вучыцеля.

Прайшла зіма, прайшло веснавое балота — растопы, а Янaчка ня мог даждацца таго дня, калі ўжо босы пабяжыць у школу. Нарэшце прыйшоў той дзень, але на жаль ня прынёс Янaчку вялікай радасьці, хіба сум і слёзы.

Прыгожа сьвяціла сонейка, грэла, як-бы сьмяялася да Янкі, а ён да яго — бо вось-жа бяжыць ён босенькі з кніжачкамі пад пахай у школу.

Цяпер ужо будзе вясна, бо Янка ўжо сані дома пакінуў!—закпіў сабе багатага бацькі сын, Міхасёк—а ўсе дзеці, што стаялі каля хворткі, зарагаталі хорам. Янaчка, які з радасьцю і ўцехай бег да сваіх таварышаў, стаў, як укапаны. Адвярнуўся і моўчкі, сярод сьмеху нядобрых дзяцей, пашоў у школу і там расплакаўся...

II.

Радасна была аднойчы ў школе. Прышлі па пошце тыя кніжачкі, якія вучыцель аж з Львова, з рэдакцыі „Сьвіта Дитины“, для дзяцей выпісаў. Усе будуць чытаць. А тыя, што далі яшчэ і свае грошы, дык зараз-жа дасталі свае кніжачкі. Усе цешыліся, толькі Янaчка і далей сядзеў сумны. Міхасёк ня толькі мае новыя і харошыя боцікі, а яшчэ і чатыры кніжачкі дастаў. Аж чатыры злоты даў ён на іх вучыцелю. Але яго бацька багатыр, а Янaчка бедны. Ен вельмі любіў чытаць, але хто яму беднаму дасьць грошы на куплю кніжачак, калі яго мамачка і на боцікі ня мае грошы. Праз сьлёзы глядзеў Янaчка, як іншыя пераглядалі прыгожыя малюнкі; цешыліся казачкамі, разглядалі „*Катка у боцікахъ*“ і „*Папялюшку*“. Але зараз вучыцель сказаў дзяцём пахаваць свае кніжачкі і пільна слухаць.

Дзеці, — прамовіў вучыцель — ужо ў нас загасьціла вясна. Усюды весела, сьмяюцца і дзеці, і птушкі і краскі. Краскі ўсіх узьвесяляць: на'т хворых прыводзяць да здароўя, а бедным у бядзе могуць памагчы.

Ці ведаеце як? Паслухайце!

Шмат у нас расьце красак і зёлак, з якіх вырабляюць розныя лекарствы. Вы ўсе пэўна ведаеце: палын, ліповы цьвет, румянку, цынтурыю і іншыя. Цьвет некаторых расьлін можна прадаць і за гэта зарабіць добрыя грошы. Найдаражэйшымі зьяўляюцца: цьвет глухой крапівы, васілька, палявога маку (заячы мак — відук) і канвалеі, спарынец (зуб у жыце), палявыя братчыкі і шмат іншых. Трэба іх старанна зьбіраць ды сушыць у цяньку. Пасьля прынасіць сабраныя зёлкі ў школьную каапэратыву, а яна гэта ўсё вышле гуртом у Львоў, адкуль за зёлкі прышлюць грошы. Кожны з вас гэткім спосабам можа зарабіць за вясну, лета і восень на'т некалькі дзесяткоў злотых і купіць сабе нешта карыснае, напрыклад кніжачкі да чытаньня, боцікі і на'т вопратку.

Дзеці выслухалі словы вучыцеля і захапіліся тэй думкай.

А Янучка?

Янучка амаль-што не сарваўся з лаўкі, каб зараз пабегчы зьбіраць зёлкі. Усяго яго заняла адна думка: „На восень мушу мець боцікі, а можа і шапку, такую чорную, баранькавую з сінім вярхом, якую мае Міхасёк! — І ніхто з мяне больш сьмяяцца ня будзе! А можа яшчэ і на кніжачкі астанецца!“

Ці датрымаў Янучка сваю пастанову? — Ці дапяў сваей мэты? А вось—няхай ён сам вам пра гэта напіша...

III.

Лісток Янучкі у Рэдакцыі „Сьвіта Дитины“ у Львове.

Даражэнькі Сьвецік!

Пішу да Цябе гэты ліст, бо хачу, каб Ты мне прыслаў тры кніжачкі з такімі прыгожымі казкамі, але такія, якіх у нас яшчэ ніхто ня мае. Пан вучыцель аддасьць мае грошы і ліст на пошту і абяцаў мяне навучыць: як пасылаць заказы і грошы на кніжачкі. Я хачу сабе купіць усе кніжачкі, але ня маю яшчэ толькі грошы — але ў другім годзе буду мець.

Але ты, Сьвецік, ня ведаеш, як я так шмат грошы дастаў, што і Міхасёк яшчэ толькі ня меў?

Як толькі нам наш пан вучыцель сказаў пра зёлкі, дык я зараз жа сабе падумаў, што назьбіраю шмат, прадам і куплю сабе боты і такую шапку, якую мае Міхасёк і шмат кніжачак.

Шмат хто з нашых вучняў пачаў зьбіраць зёлкі, але пасьля перасталі. Былі такія, што з нас сьмяяліся і казалі, што мы з гэтага ніякай карысьці мець ня будзем. Аднак толькі я з Хрусьцёвай Марысяй кожны дзень праз усё лета зьбіралі зёлкі і сушылі на падстрэшку, а ў кожную суботу насілі ўжо сухія зёлкі ў нашу Супалку. А пасьля, як мы ў восень пачалі ізноў хадзіць у школу, дык пан вучыцель раз і кажа, што ўжо прышлі грошы за зёлкі.

І найперш далі мне 24 злоты, а Марыся дастала 17 злотых. А Хімчын Пятрук дастаў 9 грошы, бо найменш назьбіраў.

А тыя, што сьмяяліся, страшэнна злавалі і казалі, што ў другім годзе будуць зьбіраць праз усю вясну, лета і восень.

За гэтыя грошы купіла мне мамачка боты і шапку, а гэтыя 3 злоты пасылаю Табе на кніжачкі, але на такія, якіх у нас яшчэ ніхто ня мае. Мамачка казала, што як калі будзе мець час, дык мне паможа зьбіраць глухую крапіву. А мы ня ведалі, што гэта такая дарагая краска, гэтая глухая крапіва і на'т ніхто на яе глядзець не хацеў.

Ужо ўсё! Як ізноў назьбіраю спарынца і дастану грошы дык ізноў мне „Сьвецік“ прышлеш кніжачак, каб я меў што чытаць у зімку.

Твой пільны чытач

**Янка Лясны** (вуч. 3 кл.).

Пераклаў **А. Войніч**.

М. Антаноўскі

# Апавяданьні цёткі Пары.

З расейскага пераклаў А. Б.

## VII. Вобалака.

Так, так, мае міленькія, лёд і пара ўсё роўна што зродныя брат і сястра... хоць і далёка адзін ад аднаго разьбегаюцца па сьвеце, а ўсё-ж радня—гэтаму запярэчыць ня можна. Але ў нас ёсьць і бліжэйшая радня. Ну, Янка, падымі руку ў гару! Вось так! А цяпер спусьці яе ніжэй да падлогі. Дзе цяплей?

— Разумеецца, што ў гарэ, цётачка!

— Твая праўда, Янечка! І я, калі выпарываюся, падніmаюся вышэй да столі, туды, дзе цяплей. Я, дзеткі, на



старасьць вельмі люблю цяпло. І ўсе вадзяныя пузыркі, пра каторыя я надоючы вам расказывала, напаўняючы паветра, заўсёды паднімаюцца ўгару. Гэта зразумела—бо паверхня рэк мораў, з каторых паднімаецца няўгледка—пара — сьцюдзянейшае, а паветра ў гары, цяплейшае. Калі сонца заходзіць,—паветра халадзее; халадней робіцца і пузыркомі —няўгледкам—яны згушчаюцца, цяжэюць, ператвараюцца ў пару і падаюць у ніз. Але ў нізе ад цёплай зямлі ім робіцца цяплей і яны ізноў паднімаюцца ў гару і астаюцца

ў паветры.—Весела ім! І там, як вобалакі гуляюць сабе яны свабодна па ўсенькім нябесным прасторы.

Але вось аднекуль павеяла на іх холадам і яны заразжа ператвараюцца ў каплі вады, каторыя дажджом падаюць на зямлю. Зімой мароз прахоплівае вобалака наскрозь і мест дажджу на зямлю падаюць прыгожанькія сьняжынкі, падобныя на белыя зорачкі. Бывае ледзяны дождж і летам; людзі яго завуць...

— Градам!—ускрыкнулі дзеці.

— Так, градам,—сказала цёгка—Пара. Град бывае ад таго, што каплі вады, вышаўшыя з вобалака, па дарозе сустрэліся з сьцюдзёным паветрам, каторае іх замаразіла.

Вось якія цуды бываюць з зроднымі братам і сястрой і з усей іх раднёй. Вада так і знай ператвараецца ў пару: вясёлая лёгкая пара разыходзіцца па ўсім паветры, будуе фантастычныя вобалакі, а яны бясьпечна гуляюць над усей зямлёй. Весела і шумна яны рассыпаюцца дабрачынным дажджом, які вяртае зямлі ўзятую з яе ваду. Вада поіць зямлю, расьліны, збожа, — усё, чым зямла-маці корміць чалавека.

Усё гэта робіцца пры помачы цяпла—праз награваньне вады і ахаладжваньне пары. Значыцца і я ня зусім бяскарысна жыла на сьвеце, на‘т калі-б больш нічога не рабіла. Але разумны ваш брат, чалавек: ён нас з братам — Агнём змусіў яшчэ пільней папрацаваць на яго.

## VIII. Цяпло.

Мой брат—агонь—вельмі вялікі чараўнік, а сястрычка цяпло добрая дуронка, — гаварыла аднойчы цётка — Пара. Няма на зямлі такога прадмету дзе-б яе, дуронкі, ня было. Цяпло так-жа неабходна, як паветра і сьвятло: без яго ня было-б жыцьця на зямлі.

Адкуль бярэцца цяпло? Разумеецца, што больш за ўсіх дае яго сонца: усе пачуваюць, як яно грэе і бачаць, як ад цяпла яго косак вясной ажывае зямля.

— А зімой цяпло жыве ў печцы!—ускрыкнуў Яначка.

— Але тады, калі ў ёй ёсьць дровы—дадала Алеся.

— І калі яны гараць! — даканчала цётка—Пара. Гэта

значыць, што цяпло дае ня толькі сонца, але і ўсё што гарыць. Усё што гарыць дае цяпло: грэе запалены лом і лямпа.

Цяпла зьявіцца і з куска сухога дрэва, калі яго шпарка цёрці аб другі кусок. Калі што-колечы пілуюць, дык піла так награецца, што аб яе можна апаліцца. Значыць, што цяпло і тады зьяўляецца, калі прадмет аб прадмет шпарка трэцца. Цяпло зьяўляецца і тады, калі прадмет бюць адзін аб адзін: калі конь бяжыць па вуліцы, б'е капытамі па камяньні дык каменьня і падковы так награюцца, што з іх сыпяцца іскры.

Цяпло, разумеецца, — няўгледка, але гарачы прадмет ад сьцюдзенага можна разрозьніць ад першага пагляду: калі з вады, стоячай на пліце, клубам ідзе пара, тады ўсякі ведае, што вада вельмі гарачая. Калі кусок зялеза сьвеціцца чырвоным ці белым сьветам, дык ўсякі ведае, што яно гарачае і рукамі за яго ня возьміцца.

Але няўгледка—цяпло—вялікая штукарка: падчас яно так зьменіць прадмет, што вы і не заўважыце гэтае перамены. Калі вы на агні нагрэеце медную манэту—яна з віду ня зьменіцца. Вы, пэўна, вельмі зьдзівіцеся, калі я вам скажу, што яна пабольшала. А між тым, так ёсьць. Усякі прадмет ад цяпла расшыраецца, гэта значыць больш займае мейсца, чым займаў пераш.

Паглядзіце, як каваль нацягвае шыну на калясо. Ен зрабіў шыну, гэта значыць зялезны круг, каторы нацягваецца на калясо, меншае, чым у калясе вобад. Перад тым як яе нацягнуць на калясо ён яе награе. Нагрэтая шына, расшыраецца і свабодна ўсьцягваецца на калясо. Тады ёй даюць астыць: яна ізноў звужаецца, ды так крэпка ашчэплівае калясо, што на'т цьвякі не патрэбны.

(Працяг будзе).




Малады Дзядок.

## „Байка.“

Было гэта перад сьвятам,
У конадзень купальля,
Як пялі вянкі дзяўчаты,
Й агні раскладалі.

Сонца села за гарою...
Малады Дзядочак
Узяў дубовы кій з сабою
І пашоў ў лясочак.

Ведаць трэ‘ што а паўночы
Дзіваў шмат ў лясочку
Настаром, бач, пільна вочы
Ды сядзі ў куточку.

Там, дзе дрэўцы штось шапочуць
Й бяжыць ручаёчак,
На мураўцы сеў ахвоча
Малады дзядочак

Ажно чуе: гоман нейкі
Да яго нясецца;
Раскрыў Дзед шырэй павекі,
Згледзіў штось, здаецца.



Птушка вось ляціць да Дзеда
Й жаласна крычыць:
„Ах, Дзядок мой, я аб нечым
„Буду Вас прасіць.

„Працавала шмат я часу,
„Гнёздка я пляла,
„І маленькіх птушанятак
„У ім я прывяла.

„Аж нядаўна хлапец дрэнны
„Гнёздка мне украў,
„Дараженькіх дзіцянятак
„Разам з ім забраў.

„З тэй пары мне сьвет нямілы,
„Плачу і сумую...
„Хоць лажысь жывой ў магілу,
„У зямельку сырую.

„Папрасі-ж хлапца Ты, Дзедка
„Мне дзяцей аддаці,
„Каб ізноў магла я ў лесе
„Весела пяяці!...



Птушка скончыла. У паветры
Узьвіўся матылёчак,
І прамовіў з сумам, з жалям:
„Малады Дзядочак!

„Сам Ты пэўна добра бачыш:
„Цяженька мне жыці!
„Хлапець змяў мяне ўчора скрыльля,
„Як я лётаў ў жыце.

„Шчэзлі з вопраткі узоры,
„Хаджу як калека!
„Няужо ж мне трэ памерці
„Ад жалю навекі?...

„Як зьверне мне Бог здароўе,
„Дзедка, папрасіце
„Дзетак, каб ўжо не лавілі
„Мяне ў жоўтым жыце“.



Далей к Дзеду падыходзіць
Сіненькі цьвяточак,
І, таксама з жалям просіць:
„Малады Дзядочак!

„Нейка дзяўчына сарвала
„Мяне ў лесе зрана,
„У ножцы ў маёй зялёнай
„Цяпер зьзяе рана.

„Мне ўсёроўна трэ‘ памёрці,
„Ужо слабеюць сілы..
„Ня дай зьгінуць ў паняверцы
„Сёстрам, брацьцям мілым!

„Папрасі ўсіх Ты дзетак
„Красачак ня рваці
„Для таго, каб потым злосна
„Пад нагой таптаці“.



Усьлед за красачкай дыбае
Шэранькі грыбочак
І, як краска, пачынае:
„Малады Дзядочак!

„І мяне сарвалі дзеці
„Для таго, каб кінуць!...
„Пачынаю з болю млеці!...
„Пачынаю гінуць!...

„А прад сьмерцяй, мой Дзядочак,
„Буду Вас прасіці
„Сказаць дзеткам: дарма брацьцяў
„Маіх ня губіці.

Далей чуе, м'маволі,
Малады Дзядочак,
З ручайка йдзе паволі
Слабы галасочак.



Ускалыхнулась вада ў рэчцы
Бліснула, як шыбка,
І ўгару з яе выходзіць
Срэбраная рыбка.

„Дзякуй, Дзедка!“—пачынае,—
„Што прышоў Ты ўпору!
„Да Цябе я просьбу маю,
„Парай майму гору!

„Былі ўчора тутка дзеці,
„Рыбак, нас, лавілі,
„Запускалі ў ваду сеці,
„Білі нас, душылі.

„Але мне дык ўжо найгорай
„Ад усіх дасталась:
„У губе маёй ад ўчора
„Жалеза засталась.

„І хоць зноў жыву я ў рэчцы,
„Радасьці ня знаю:
„Есьці, добра размаўляці,
„Спосабу ня маю“.

Чакаць доўга ня прышлося:
Малады Дзядочак
Борзда выцягнуў у рыбкі
З губанькі кручочак.

„Дзякуй, Дзедка, за ратунак!“—
Рыбанька сказала,—
„Ізноў, усё ж такі, на сьвеце
„Шчасьця я дазнала!

„Добры будзь, скажы Ты дзеткам,
„Малады Дзядочак,
„Хай ўжо ловяць яны ў сетку
„Нас,—не на кручочак!“...

Ускалынулась вада ў рэчцы,
Блiснула, як шыбка,
І на дно ўмiг спусьцiлась
Срэбраная рыбка.

Шмат йшчэ з просьбамi стаяла,
Аж крыкнуў хтось: „Годзе!
„Цi ня бачыце, што зьзяе
„Золачак на сходзе?!“...

Сьцiхла, згiнула ўсё мiгам...
Падзьмуў вецярочак...—
Падыбаў павольi з лесу
Малады Дзядочак.

Дык зрабеце, дзеткi, ласку:
Птушак не лавiце,
Грыбкоў, красачак дарэмна
Й рыбак не губiце!

Мятлiку ня рвiце крылкi,
Вопратку ня псуйце!
Усiх ў няшчасьцi, дарагiя
Дзетачкi, ратуйце!

3 лiпня 1927 году.



Ст. Грынкевіч.

# Капля вады.

(Канец).

А сонейка падышло амаль не да стоцi i коскi ягоныя сквапна талопiлiся на веча ў крынiчцы. Сьмех яму з таго дзяцiнага зюзюканьня дурненькiх капляў. Аднача яно ня толькi магутнае, яно добрае, хацела-б даць кожнаму, аб чым хто толькi лятуцiць. Дык i цяпер загадвае, каб коскi зьдзейсьнiлi просьбу, якая лунала над крынiчкаю, а скрозь коскi даляцела i да валадарнага гаспадара сьвету. I толькi яно кончыла свой сказ, а ўжо нагрэвае, дзеiць на ваду. Ад гарачынi ледзь трывае яна. Нiводная капля больш не цячэ, усе ждуць i здаецца iм, што чуюць гутарку.

— Добра дзеткi! Хочаце сьвету, мецiмьце яго. Цяпер цi потым усё роўна здасьледавала-б з вас кожная тое, што хочацца вам убачыць хутчэй. Праўду кажаш i ты, маладзенькая, i тая навытараная. Яна, вяковая, бачыла ўсенька, дык ёй i ня рупiцца больш, ведае, што ў мяне чародна адно за адным iдзе, а ўсюды мэтнасьць, усюды лад i хаця на пагляд i бязладзьдзе вялiкае. Ты, маладзенькая, ня бачыўшы нiчога, на‘т i не пачуваеш, тае вялiкае сугалоснасьцi ў сусьвеце. Ня бачыш таго, што ў бязконцасьцi ягонай дзействы паасобныя абмяжаваныя i датарнаваны да мэты аднае. А мэта тая нiкому не вядомая, нiкому яна не прыцямная i толькi людзi адныя бачаць яе, хаця i не цемячы. Ваш шлях прадбачаны вам даўна i хоцькi ня хоцькi вы хадзiцiма па ём. А цяпер хай будзе, як вы хацелi.

Жнеi ледзь дыхалi ў непарушным паветры. Жаць было немагчыма. Мокрыя ад поту пiлi-б ваду i пiлi-б. Ляжаць або пад снапамi, або так дзе ў цяньку, а больш руплiвыя iмкнуцца да крынiцы. Прышоў адзiн, за iм другi, ды чаму-

сьці ня чарэпаюць вады. Пасталі на мурагу і звячаваюцца з сабою. Надзівіцца ня могуць, што чаўпецца з вадою. Яна, якая заўсёды гэтак смашная, халодная, здаровая, сяньня накшая зусім, быццам ня тая, што калісь.

— Блага нам будзе сёлета — кажа сталы гаспадар — калі і крыніца хоча сохнуць, калі і ў ёй вада цёплая, дык знача сонейка нас спячэ дазваньня. Хто калі чуў, каб праз тры тыдні была гэткая паркасьць, а дажджу ані каплячкі. І сяньня зноў раніцаю была раса. А раса раніцаю, пагода да вечара — кажуць у нас.

— А мне, дзядзька, здаецца, што мецімем сяньня навальніцу—адказвае нейкі малады голас. Гляньце вы толькі на неба!

А на небе сапраўды нешта заводзілася. Ня было яно ўжо сіня-пераразрыстае, бо шоўгалі па ёй беленькія хмаркі, аб якіх думала капля, што гэта жывёлінкі тамака гуляюць. Гуляюць быццам баранчыкі па полі і шмат іх, а з часіны на часіну колькасьць большае. Ад іхняе прысутнасьці гарачыня яшчэ вялікшая быццам стала. Жнеі ўцяклі ад мурагу каля крынічкі, няўсьцерп была ім тая сьпякота. Вада і то сьцішала. Ня чутна ўжо бунтаркі, ня клыкчыць больш ніхто. Ды дзе каплям цяпер было да гутаркі. Пачынальніцу першую мляўкасьць нейкая схапіла. Сама ня ведала скуль і што, а вось зёхнуць ніяк не магла. Тое самое з усенькімі сяброўкамі. Усе лягчэй і лягчэй ім робіцца, а ведама бяз прывычкі, дык крышку дзіўна. Чаму гэта так? Мяркуюць кожная сабе, а калі ня глянуць — няма ўжо паміж імі бунтаркі. Сюды туды глядзяць—нідзе няма. Пачалі сумаваць, забыўшыся на'т на сваю мляўкасьць, па ёй, калі пачулі словы тае навытаранае.

— Не палохайцесь за яе, тое самае з вамі зараз будзе. Гляньце ўверх, дык убачыце яе, ды шмат каго, што часіну таму назад тутака былі...

Не пасьпела яна скончыць сказ, калі сама пырхнула ўверх. Усенькія на яе ўглядаюцца з крынічкі, а яна нічога сабе, сьмяецца да іх. А над ёю бунтарка. Высака, высака, лучыць у беленькую хмарку. Ня было больш калі ўглядацца тым, што асталіся, бо і яны адна за аднэю, потым ужо плоймамі, ляцелі. А чым іх больш было, тым чарнейшыя былі хмары і вецер аднекуль схапіўся. Сонейка толькі пакуль што зіхацела без перамены і касулямі сваімі ўкупляла і хмаркі, і вецер, і палёткі з жнеямі, і тую крынічку адкуль прыляцелі нашыя каплячкі, толькі яны ня былі цяпер ўжо вадою. Вада ня можа лётаць, яна надта цяжкая. Дык гэта сонейка з вады зрабіла пару. Кожная капля вады стала бурбалкаю пары. Адтуль і мляўкасьць была, адтуль і пачуцьцё лёгкасьці.

Да тае хмаркі, дзе лучыла бунтарка, лучыла большая частка знаёмых з крыніцы. Пытаюцца адныя ў адных, ці лепш ім цяпер ды агулам аб сваіх уражаньнях. Кожная хацела гаварыць, дык і пачалі ўсе.

— Ах! каб вы ведалі мае...

Аднача ніводная ня выказала сваіх думак, бо нешта каля іх як гукнула, потым загуркацела гур... гур... гуррр... а вецер па іх сьпераду, ззаду, з аднаго боку, з другога, папёр усе хмаркі няведама дзе. Усе глядзелі каб як прытаіцца, схавацца, а — асабліва-ж маладыя. Старому дык што! Прывык да ўсяго, а вось гэткія, як прыкладам, бунтарка, дык упяршыню бачылі буру.

Ну і ганяла хмаркі тады. Навальніца шугане аж да сонейка, сонейка ад іх хаваецца, яны потым назад, ды зноў імчацца, што ўсенька трашчыць. А маланка як пачала, во дык было! Зірне раз сонейка, хутчэй хаваецца, а зараз быццам у дагон яму маланка, а за ею гром гуркаціць!

Расьцярушыліся бурбалкі хто дзе, бедная бунтарка адна толькі цяпер. Сумна ёй, палохаецца яна ўсяго, каля яе

незнаёмыя, шкадуецца, што гэтак самахоць лучыла ў нагоду, якое ніколі не ўяўляла. І цяжка ёй вельмі, няма нат і тае лёгкасьці, якая была толькі што. Нейкая зноў перамена ў ёй дзеіцца, Не агледзілася, каль ад тае цяжкасьці паляц ла у пропхлю, што была пад ёю. Ня ведала, дзе падае, анямела зусім ад неспадзевак усіх. Зноў яна не бурбалкаю а капляю і супольна з другімі цурком ліецца на зямлю. А тая прагна ўсмоктвае іх, глытае, засохшы ад смагі вялікае. Ня трымае іх на сабе а шчакаўзяць яны ўсё глыбей і глыбей. А тамака цёмна, цесна, бо дзірачкі ў зямлі вузенькія, пераблытаныя. Бунтарка зьнячывелі насудошыла на сваём шляху запыню. Нешта быццам пярун гакнула па ёй бяз ніякага аднача гоману. Схапілі яе нейкія кіпцюры, разарвалі на часьцінкі і больш яна не памятавала, што было з ею. Ня бачыла, што рабілі ёй, што было на зямлі. Забралі яе ў палон кареньчыкі расьцінкі, дзе яна ўпала з хмаркі, якую прыгнаў сюды вецер. Далёка да ейнае роднае крынічкі, не пабачыць яна больш тае рэчкі, дзе ёй трэба было цячы. А мо? Толькі тыя, што ўмярлі, або зусім расьцярушыліся ня могуць быць тамака, дзе былі. А ці нашая капля шчэзла ўжо назаўсёды, ці больш яе няма?!

Паглянем, будзем дасьледаваць, мо калі і сустрэнем яе, ды пачуем аб долі і падзеях ад тае часіны, калі лучыла яна ў расьцінку.



# У бары.

М. Канапніцкай

Настаў ужо дзянёчак,
Зьвініць птушак хор.
Пойдзем-жа мы, пойдзем
Па ягады ў бор.
Па ягады,
Па маліны,
Па ча ніцы,
Ды ажыны
Пойдзем, пойдзем ў бор!

Скажы нам бор цёмны,
Калі гэта знаеш,
Скуль ты толькі ягад
Салодзенькіх маеш?
І суніцы,
І маліны,
І чарніцы
І ажыны
Адкуль ты іх маеш?

Дажджы паліліся;
Прышло сонца ўраз
Зямля абрадзіла,
У гэты добры час.
Тыя ягады:
Й маліны,
І чарніцы
І ажыны
У гэты добры час.

Перакл. З. Верас.

# Ці сон вінаваты?

*(Апавяданьне з жыцьця пастушка).*

Янка, уставай! Ужо сонца зараз узойдзе! — гукала матка, будзячы свайго сынка, каб гнаў скаціну ў поле.

— Уставай, ужо Вінцэсяў пагнаў і Белавусаў гоне... Ну!—штурхала яго рукою.

— Яшчэ хоць трошкі, хоць адну хвіліну! — прасіўся Янка. Вочы яго былі заплюшчаныя і ён ніяк не хацеў іх адчыніць: так салодкі, так прыемны быў гэты раняшні сон, тымбалей яшчэ хлапцу, якому мала прыходзілася спаць.— Так хутка прабегла ноч — думаў ён і не даваў веры, што ўжо трэба падымацца да работы.

Яшчэ, мамка, хоць драбінку! — шаптаў просячыся і закручываючыся ў посьцілку.

— Уставай, уставай! Няма чаго! Усе людзі ўжо пагналі. Ну: я ўжо йду даіць!— прасіла маці, аднак ужо з некаторай злосьцю, хоць ёй надта не хацелася яго будзіць; яна ведала чаму яе сынку не хацелася ўставаць.

Што? Гэта ён яшчэ ня ўстаў?—загрымеў голас бацькі, які ўжо даўно ўстаў і абышоў сваю гаспадарку. Пачуўшы яго голас, Янка саскочыў з тапчана, на якім спаў, падцягіваючы порткі на худым целе.

Сонца ўжо ўстала і яго чырвона-залацістыя раняшнія праменьні праз маленькія вокны прасунуліся ў хату, напаўняючы яе бедны выгляд залацістым сьветам.

— Німа чаго! У абедзе высьпішся—сказаў бацька і вышаў на двор.

Янка нічога не адказаў і толькі праціраў вочкі худзенькімі кулачкамі. Накінуўшы на сябе латаную сярмяжку, палажыў у торбу хлеб і вышаў на пачадворак.

Была прыгожая летняя раніца. Паветра была лёгкае, напоўненае птушыным сьпевам і дзіўнаю сьвежасьцю. Янку гэта так ажывіла, што ён забыўся і аба сьне. Прыемная шчасьлівая усьмешка паказалася на яго твары. Яго агарнула, як нейкаю чароўнаю коўдрай, паветра; песьні жаўранка ў небе, шпака на бярэзіне, кукаваньне зязюлькі ў

гаіку песьціла яго вуха і від прыроды ў самым расцьвеце жыцьця, асьвечанай залатымі праменямі ўсходзячага сонца, чараваў сваёй прыгожасьцю яго вокі. Ен стаў і на хвіліну прыгледзіўся, прыслухаўся.

Чаму гэта ён так сёньня прыкмеціў усю прыгожасьць прыроды? Ен і сам ня ведаў...

Але вось зарыкала голасна карова, вышаўшая з хлява. Яе рык перарваў той стан, у якім быў Янка. Ен падыйшоў да хлява, заняў карову і выгнаў на вуліцу.

— Глядзі-ж не рабі шкоды! — крыкнула ўдагон маці.

— Добра, добра! — адказаў Янка, ударыўшы карову пугай.

Па дарозе ён заняў яшчэ пару кароў і хутка апынуўся на полі, якое было блізка ад вёскі.

## II.

Янка пасьвіў асобна ад другіх вясковых хлапцоў на „сваім“ і дзеля гэтага яму было надта нудна без кумпаніі.

Прыгнаўшы каровы на пашу, ён выбраў сабе сушэйшае мейсца на грудку і сеў на ім, хаваючы ногі пад сярмяжку. Той самы штодзенны краявід яго не цікавіў балей: яму хацелася пабачыць нешта новае. Але як на злосьць нічога не перамянілася: вось тая самая пшаніца, бульба; там далей ўжо пажаўцеўшае стаяла жыта, а яшчэ далей цягнулася дзяжка канюшыны. Нічога новага ня мог угледзець Янка. „Хутчэй-бы дадому“ уздыхаў ён падыходзячы за каровамі, якія пасучыся пасоўваліся наперад.

Сонца ўжо падпякала добра, калі скаціна падышла да канюшыны. Тут была найлепшая паша і каровы, як заўсёды, даўжэй затрымоўваліся.

Янка сеў каля самай канюшыны. Ад нуды і бяздзельля стукаў дубцом па траве, сьсякаючы яе лісты. На дзіва каровы так уважна хадзілі: *) мусіць яны чулі, што будзе сьпякота сёньня і мухі пасьля не дадуць пад'есьці.

Сонца, прыграваючы Янку, наводзіла на яго нейкую прыемную лень.

---

*) Пасьвіліся.

„Трэба прылегчы, а то збрыдла сядзець!“ сказаў сам сабе Янка і тут-жа расьцягнуўся.

Ен ляжаў дагары і з прыемнасьцю ўглядаўся на прабягаючыя па небе хмары. Цераз нейкі час ён павярнуўся на бок, бо так ляпей было наглядаць за каровамі. Пасьля прабаваў сесьці, але, як толькі гэта рабіў, яго галаву, цягнула ў ніз, як бы волава хто ў яе наліў.

„Буду ляжаць. Але-ж і не хацелася сёньня ўставаць! І чаму гэта такі мілы сон?“

Яму было прыемна ўспамінаць аб сьне і ён сіліўся перанясьці сябе да сёняшняй раніцы, да таго салодкага сну. Павекі яго як-бы слухалі прыемных лятуценьняў і самі сабою зачыняліся.

„Не трэба спаць!“ гукнуў сам да сябе Янка схамянуўшыся і глянуў на скаціну, але пабачыўшы, што яна спакойна пасецца, ізноў лёг і аддаўся ўвесь прыхадзячаму сну.

„Такі я сёньня ня выспаўся, калі спаць хочацца“.

„А мінутку незашкодзіць!“.

„Глянь на скаціну“.

„А, усероўна ходзіць!“

„Пяць мінут можна заснуць!“ — нібы ўжо аканчальна пастанавіў Янка. Адразу нейкая заслона аддзяліла яго ад усяго так, што ён і ня зьдзівіўся, калі апыніўся сярод сваіх сяброў. Вось, здаецца, яны на выгане за вёскай, бегаюць, перакідаюцца, дужаюцца. За імі бегае гэты міленькі Жучок тузаючы то аднаго, то другога за портачкі і так голасна, радасна брэша, што яго голас падхоплівае рэха ў блізкім лясочку і нясе яго далёка, далёка... Ім усім было так весела, так прыемна, што больш ніколі хіба так у жыцьці ня будзе.

Ен сьніў дзіўны, радасны сон...

Тымчасам каровы распаўзьліся па ўсім абшары. Яны нібы ведалі, што цяпер вольныя ад свайго „апякуна“, дый часу было шмат, бо Янка, дзякаваць Богу, спаў ужо цэлую гадзіну.

Адна кароўка зайшла ў збожа і са смакам церабіла

дасьпяваўшыя ўжо каласы, другая бульбу секла, як нажом а Красуля, Янкава і яго сям'і карміліца, прайшоўшы каля сьпячага, улезла ў канюшыну і давай спрытна касіць на поўны рот.

Церабілі яны ўсе гэтак з поўгадзіны, аж тая, што была ў канюшыне лягла: яна не магла хадзіць, бо яе ўздувала.

Нарэшце Янка прачнуўся.

Як заяц ускочыў на ногі.

— Ай! Ато ж я спаў! Аяй і скаціны няма!... з плачам зароў ён і са страхам зіркаў на ўсе бакі.

Пабачыў першую Красулю. Яе трыбух здалёк было відаць.

— А мая-ж ты Красулечка! А гэта ж ты аб'елася! — плачучы бег да яе.

А Красулю бедную ўздула, як гару. Вочы на лоб вылязьлі і так жаласна. жаласна пазіралі, здаецца прасілі: „Ратуй мяне, Янка! Ратуй!“

— А мая ж ты кароўка! — заплакаў на ўвесь голас Янка і ўпаў на яе, абнімаючы шыю...

Тымчасам людзі беглі з усіх бакоў. Яны працавалі на полі, і пабачылі кароў у шкодзе. Наперадзе ўсіх бег Янкаў бацька.

**Міхась Тарасюк**

Казлоўшчына 13. VI. 1927 г.



Янка Башкір.

# Два цары.

Спаткаўся леў з медзьвядзём.

— Я зьем цябе, мядзьведзь! — кажа леў.

— Што з таго — пачаў прасіцца мядзьведзь: — што ты цар над усімі зьвярамі і дужэйшы за нас усіх разам, зьясі беднага медзьведзя. Зьеш ты чалавека. Тады ты нажывеш сабе няўміручую славу і тваё імя паміж нас зьвяроў яшчэ больш падымецца. І будзеш ты тады ня проста толькі цар, а цар над царамі.

Леў, як ведама, зьвер ня тутэйшы. Жывець ён у вялікіх дзікіх пустынях, дзе чалавек трапляецца вельмі рэдка. Мала якому льву выпадзе на сваім жыцьці такое шчасьце, што ўбачыць чалавека. Якраз гэты леў валежаў да тых, нешчасьліўцаў, якім



ніразу няпрышлося спаткацца з чалавекам.

— Дык ты думаеш—гарда кажа леў:—што я, цар над усімі зьвярамі, няўходаю нейкага чалавека! Давай мне яго!

— Я магу толькі паказаць табе чалавека, цар.

— Паказывай!—недае супакою льву падражненае царскае самалюбства.

І павёў мядзьведзь льва на вялікую дарогу.

— Пачакаеш тут — кажа мядзьведзь:—хутка надыйдзе або над'едзе чалавек

Прыселі. Ждуць. Нецярпіцца льву.

Ідзе дарагой стары жабрак, апіраючыся на кій.

— Гэта той чалавек? — іранічна пытаецца леў, паказываючы на жабрака.

— Не —адказывае мядзьведзь!—гэта быў некалі чалавек, але цяпер перастаў быць ім.

Пагадзіўшы, праходзіць дарогай пастушок.

— Гэта чалавек?—з большай пагардай пытаецца леў.

— Не. З часам ён будзе чалавекам, але цяпер яшчэ не чалавек.

Прайшоў пастушок. Едзе дарогай ваяка на кані з стрэльбай, шабляй і мячом.

— Во чалавек! — паказывае мядзьведзь на ваяку.

— Дык ты думаеш — гарда кажа леў:— Я не разаб'ю адным ударам сваей лапы гэта шчуплае стварэньне папалам?

— Я нічога не думаю, цар.

Скочыў леў на ваяку. Спахваціў ваяка стрэльбу і раней, чым леў даскочыў да яго, прастрэліў яму бок. Крэпка забалела льву, але зьвярыны цар ня хоча здавацца. Замахнуў ваяка мячом і ўсадзіў яго льву ў грудзі. Зашатаўся на нагах леў, пацякла руччом кроў з яго ранаў, але царскі гонар не дазваляе яму сазнацца, што яго перямаглі. Сабраў леў апошнія сілы і яшчэ раз кінуўся на ваяку. Выхваціў ваяка з похвы шаблю і стаў ёй сеч льва па галаве. Ня вытраваў леў і заваліўся на зямлю, ня могучы перамяніць дух. Кроў цурком цякла з яго ранаў.



А ваяка ўлажыў шаблю ў похву, закінаў стрэльбу за плечы і паехаў далей.

Падыйшоў да канаючага льва мядзьведзь.

— Ну, хто каго перамог: ты чалавека, ці ён цябе?

— Я цар, але ён павінен быць цар над царамі — прастагнаў леў: — Такой сілы і спрытнасьці я ніколі ня бачыў і ня сьніў, што яна ёсьць на сьвеце. Калі плюнуў ён мне ў бок, дык харкач яго прайшоў мне праз мой бок на вылёт, перавярнуўшы ўсе мае вантробы, а калі торкнуў сваім пальцам у мае грудзі, дык расьсек іх папалам, а як пачаў, наастатак, лізаць маю галаву сваім даўгім, бліскучым языком—галава мая аблілася кроў і я перастаў болей відзець і чуць... Ен мяне перамог!..



# Працы нашых чытачоў.

## Пара галубкоў.

Нейяк у канцы траўня прыляцела пад нашу хату адна, мусіць маладая, парка галубкоў, і пачала шукаць сабе мейсца, дзе ім было-б добра зрабіць гняздо і там выгадаваць сваіх дзяцей. Пачала гэтая парка галубкоў насіць на выбранае імі мейсца матэр'ял, патрэбны на будоўлю гнязда. Доўга зьбіралі яны яго, нешта праз два ці тры дні, а гняздо амаль што стаяла на адным мейсцы.

Угледзіў я іхнюю мазольнюю працу і рашыў памагчы ім. Узяў я стары кошык, выразаў у ім дужку, каб не замінала галубком, палажыў у яго са тры жмені сена і занёс на выбранае імі мейсца. Галубкі вельмі былі рады гэтаму шчасьцю, а радасьць сваю выказывалі сваім бруканьнем.

Пасьля некалькі дзён захацелася мне паглядзець, што яны там ужо зрабілі, і я ў сераду, 1, VI гэтага году, палез на гару нашае хаты (бо там было іх гняздо), і каб Вы ведалі якая была мая радасьць, калі ўгледзіў я ў кошыку адно беленькае яечка. Гэтыя галубкі мусіць больш за мяне былі рады, бо выляцелі на страху нашае хаты і зачалі круціцца ўваўсе бакі, адначасна брукуючы.

Лазіць да іх кожны дзень я не хацеў, бо бачыў, што мае адведзіны ня так ужо ім падабаюцца. Але я рашыў наглядаць за імі, колькі зьнясуць яечак. Дзеля гэтага нек' тры ці чатыры дні пасьля першага глядзеньня, палез я ізноў на гару і ўгледзіў ужо два яечкі.

У гэты час прыляцела на нашу хату другая пара галубкоў і пачала дабівацца ў нашае паркі сабе мейсца на гняздо; відаць і ім спадабалася гэтае мейсца. Але атрымаўшы добры адпор ад нашых галубкоў, паляцела назад.

Пакінуўшы дабівацца гэтага мейсца, далі спакой нашым галубком. Галубкі нашы абараніўшыся ад напасьц узяліся каля сваіх яечак: галубка цэлымі днямі сядзэла на яечках, а галубок вылятаў раненька, раненька, як толькі ўсходзіла сонейка, і шукаў сабе чаго зьесьці, а так-жа прынасіў і галубцы, бо яна з свайго гнязда рэдка калі зьлятала.

Я цяпер не хацеў турбаваць іх, бо ведаю, што больш яечак ня зьнясуць, а гэтыя будуць наседжваць семнаццаць або дзевятнаццаць дзён.

(Канчатак будзе).

Напісаў **Янка Патаповіч.**

Вёска Рачканы.

---

## Грошы-жыцьцё, грошы-сьмерць.

Ішоў дзядок у адно мястэчка і на дарозе знайшоў шмат грошы. Дзядок гэтых грошы ня браў; падняў, паглядзеў, кінуў і пашоў далей.

Ідзе дарогай і сам сабе кажа: „грошы — жыцьцё, грошы—сьмерць“. Аж з-за кустоў вышлі тры браты, пачулі дзедаву гутарку ды шэпчуць: ці не знайшоў гэты дзед сьмерці з грашыма. Узяла іх цікавасьць і яны пытаюцца ў дзеда: аб якіх грашах і якой сьмерці гаворыш, дзядок? Дзядок ім сказаў, каб ішлі гэтай дарогай, дык знойдуць шмат грошы.

Ідуць, прыгледаюцца аж вочы балець пачынаюць ды цёмна робіцца ў ваччу, аж глядзяць, ляжаць грошы! Знашоўшы грошы здумалі справіць гулянку. Паслалі аднаго з іх па гарэлку і закуску а самі пачалі радзіцца і ўрадзілі забіць таго, што пашоў па гарэлку, а самім падзяліць грошы. Той-жа, што пашоў па гарэлку, купіў гарэлку і атруты, усыпаў атруты ў гарэлку, думаючы тых патруціць, каб грошы яму асталіся.

Калі пачалі піць гарэлку, дык той, што прынёс не хацеў піць, але яго прымусілі. Усе атруціліся, а грошы асталіся.

Запісаў **Леванід Дмітровіч,**

Засьц. Жалюбчыкі, Дзісьненскага пав.

# Хітры цыган.

Хадзіў сабе па сьвеце адзін цыган. Раз ён быў вельмі галодны, бо нідзе ня мог сабе зарабіць і ўкрасьці нідзе нічога не ўдалося. Так ён хадзіў, хадзіў і зайшоў да аднаго пана, А там якраз абедалі. Стаў ён расказываць тое ды сёе, нарэшце кажа: „Бачыў я сягодня ў лесі нейкага зьвярка; маленькі ён, круглевькі, гарбаценькі ды вельмі калючы, качаецца сабе па лесе. Не ведаю толькі, як ён называецца"...

„Jeż“ — кажа коратка пан.

А цыган на гэта: „Дзякую, паночку, даўна я ўжо нічога ня еў і хаджу галодны". — Ухапіў ложку ды давай есьці.

Запісала **Марыся Ласько**
з Косава.

---

# Апісаньне возера у лесе.

Навакол палянкі цягнуўся цёмны мур соснаў і гушчару ляснога. Мур гэты ў адным мейсцы прарываўся, адчыняючы што-раз, дык больш расшыраюючыюся вуліцу. У вуліцы і расшырэньні булькалі хвалі возера і паласкалі свае берагі.

Возера было шырокае, другі бераг гінуў у аддаленьні і толькі, як праз імглу можна было ўбачыць чырвоную страху і вежу стаячага на другім баку касьцёла.

Сосны з высокіх, пешчаных берагоў пераглядаліся ў возеры, як у люстэрку і здавалася, што другі лес расьце ў вадзе: калі калыхаўся лес на зямлі, калыхаўся і ў возеры, калі шумеў на зямлі, дык здавалася, шуміць і ў возеры, а калі стаяў ціха бяз руху, тады кожная ігліца сосны выразна рысавалася, а пні ішлі проста як калюмны.

У дзень возера адбівала сонца, рана і ў вечары зару, ноччу месяц і зоркі і здавалася такім глыбокім, як высокае скляпеньне неба.

**Стэфусь Войцік.**

в. Вярэнькі, Дзісьненскага пав.

---

# КУТОК СЬМЕХУ

I.

**Марылька да Янкі:** Колькі табе гадоў?

**Янка:** Мне дзесяць, а табе?

**Марылька:** Мне 8, ну, але-ж ты пачакай два гадкі, я цябе нажану, будзем тады равесьнікамі.

II.

Малы хлопчык пабачыў як яго маці клала ў цеста дрожджы і пытаецца: Навошта, мама кладеш дрожджы ў цеста? — На тое, каб расло. — Дай мне, мама, крыху дрожджаў... — А на што яны табе, сыночак? — А я хачу больш вырасьці.

(Падаў **Андрэй Начуй**)

I.

**Вучыцель:** Што такое вецер?

**Вучань:** Вецер, пане вучыцялю, вецер — гэта паветра, якое вельмі сьпяшаецца.

II.

**Вучыцель:** Пятрук, хто стварыў гэтыя горы, што відаць праз вокны?

**Пятрук:** Гэтага я ня ведаю, бо мы ўсяго два тыдні як сюда прыехалі.

III.

**Вучыцель:** Юзік! Колькі будзе: ад двух адняць два?

**Вучань:** Адзін, пане вучыцялю!

**Вучыцель:** Не, мой хлопчык! Слухай: калі ты маеш у кішані дзьве булкі, вымеш сьпярша адну, а пасьля другую, што астанецца?

**Вучань:** Крошкі.

(Падаў **„Малады Дзядок“**).

# Загадкі і круцігалоукі

## Шарада.

(Улажыла „Маруся з Антокалю“)

Першае—другое, рэч то нямілая,
кожнага за што небудзь яна ня мінае;
Першае ды з трэцім піў напэўна кожны
мае смак прыемны, а гатунак рожны,
Другое з чацьвёртым кожны мусіць знаці,
хлапцом яе ў бойцы лёгка атрымаці.
Цэлае: ў пустыні можаш ты пабачыць,
па пяску сыпучым сьлед свой яна значыць.

---

## Круцігалоўка прастакутная.

(Злажыў Аляксей Патаповіч.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | | 10 | |
| 2. | | | | | 9 | × |
| 3. | 1 | | | | 8 | |
| 4. | 2 | | | | 7 | |
| 5. | 3 | | | | 6 | |
| 6. | 4 | | | | 5 | × |
| 7. | 5 | | | | | |
| 8. | 6 | | | | | × |

У васьмі радкох азначаных цыфрамі 1, 2, 2, 4, 5, 6, 7, 8, трэба паставіць словы. З л'тараў стаячых у клетках 1, 2, 3, 4, 5, 6, зложыцца псэўданім вядомага беларускага паэта, а з літараў, што знойдуцца ў клетках 10, 9, 8, 7, 6, 5, зложыцца назоў места на Беларусі.

Клеткі азначаныя крыжыкамі астаюцца пустыя.

**Склады з якіх складаюцца словы:** Ан-ва-го- ла за-тон к мар уго-па але лье-ба-ся-пацъ кі шу ля-ня.

**Значэньне слоў.** 1) Найпершы дзіцяці занятак. 2) Грошы якія недаўна былі ў курсе. 3) Частка ад ежы. 4) Перагарэўшае дрэва. 5) Гэрб Беларусі. 6) Жаночае імя. 7) Абутак беларуса. 8) Мужчынскае імя.

## Круцігалоўка квадратная.

(Злажыў Леанід Зьмітровіч).

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | А. |
| | 2 | | | | Б. |
| | | 3 | | | В. |
| | | | 4 | | Г. |
| | | | | 5 | Д. |

У пяці радкох азначаных літарамі А, Б, В, Г, Д. напісаць па адным пяцігалосным слове. З літараў стаячых ў кратках азначаных цыфрамі 1, 2, 3, 4, 5, зложыцца псэўданім беларускай паэткі.

**Словы злажыць з наступных складаў:** мя-цё-тка-хат-цы-мат-тла-ган пла-тка.

**Значэньне слоў:** 1) Чалавек які ў нас жыве неаседла 2) Працілежнае слову холадна. 3) Прозьвішча беларускага пасла. 4) Сваячка якую кожны чалавек мае. 5) Інакш дом.

## З а г а д к а.

(Падаў Янка Патаповіч).

Вазьмеце 10 сярнічкаў, палажыце іх у адзін радок абазначыўшы кожную парадкавым нумэрам:

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |

Цяпер бярэце адну адпаведную сярнічку і перанасіце праз дьзве, кладучы накрыж на трэцяй і гэтак да тае пары пакуль не атрымаеце пяць пар.

## Загадка рахунковая.

(Падаў Андрэй Начуй).

Янка і Пятрук пасьвілі авечкі, кожны асобна. Пятрук прышоў да Янкі і кажа: Янка дай мне адну авечку, то ў мяне будзе ўдвое больш чым ў цябе. Янка кажа: лепш ты, Пятрук, дай мне адну, то ў нас будзе адзінакавы лік.

Колькі было авец у Янкі і колькі ў Пятрука.

---

1) У якога караля наймацней карона на галаве трымаецца?

2) Якіх каменьняў у рацэ найбольш?

3) Што сьвеціць, а ня грэе?

---

4) У гаршчочку на калочку
Тысяча зярнят пясочку.

---

5) Пяць птушачак хвойка схавала,
Хтось стрэліў — адна з іх упала;
Дык колькі — скажэце мне, хлопцы,
Тых птушак асталося ў хвойцы.

## Разгадкі загадак з кніжкі 4-ай.

**Круцігалоўка са складаў:**

Т аргак
А рхімэд
Р аса
А раты
С алавей
Г арбуз
У ршуля
Шасьцярня
Ч апля
А матар

---

**Акно з сярнічкоў:**



Кропкі азначаюць мейсцы, скуль адкінуты сярнічкі.

---

**Загадка І-ая.**

Ішлі: бабка, дачка і ўнучка.

---

**Загадка 2-я.**

Цэлая стая складалася з 4-х чяцьвярцей.

Бярэм значы . . 4
яшчэ столькі . . 4
„поўстолькі“ . . 2
„чэцьверць таго“ 1

Разам . 11 частак.

Калі ад 100 гусей адымем нашу адну гуску, то астанецца 99 гусак, якія дзелім на адзінаццаць частак: 99:11=9.

З гэтага бачым, што адна чэцьверць стаі складалася з 9 ці гусак, а што ў цэлай стаі ёсьць 4 чэцьверці, то памножыўшы 9×4 атрымаем 36 г. зн. лічбу гусак з якіх складалася стая.

---

**Загадкі дробныя:**

1) Рэха.
2) Стол.

Добрыя разгадкі прыслалі: **Андрэй Начуй** з в. Мілевічы **Аляксей Патаповіч** з в. Рачканы; **„Марыся з Антокалю“**; **Янка Патаповіч** з в. Рачканы.

